## На Ленінскую прэмію

# СЭРЦА — НАСЦЕЖ

КНІГА Петруся Броўкі «А дни идут...» выйшла ў свет у Маскве ў мінулым годзе. Пра яе шчыра адгукнуліся Ян Судрабкалн і Міхаіл Святлоў. Аб тым, што яна стала значнай літаратурнай падзеяй, сведчыць вылучэнне яе ў спіс твораў літаратуры і мастацтва, дастойных прэтэндаваць на Ленінскую прэмію.

Адкрываем кнігу з хваляваннем. Створанае беларускім паэтам, добра знаёмае ў арыгінале, гучыць на рускай мове. Пераклаў кнігу з беларускай мовы вядомы і вопытны перакладчык — паэт Якаў Хелемскі.

Чытаем і пераконваемся: валодае паэзія Петруся Броўкі той адметнасцю, якая выяўляецца выразна нават у перакладзе.

Натуральнасць інтанацый, яснасць думкі, высокая прастата, якой адзначаны творы сапраўднай паэзіі, што жывіцца з крыніц народнай мудрасці і творча наследуе традыцыі класікі,—усе гэтыя якасці відавочныя пры першым жа знаёмстве з кнігай.

Вось верш «Сентябрьские ветры» — сціплая, здаецца, замалёўка:

Гоня лавину туч лохматых,
Примчались ветры, осмелев,
И ставят желтые заплаты
На кроны городских дерев.

Бульвары от дождей набрякли,
Окутал башни листопад,
И фонари, как будто капли,
На тонких проводах дрожат.

На стенах водостоки плачут,
На всех проспектах ручейки,
И только галстуков ребячьих
Не угасают огоньки.

Тут жа побач яшчэ адна замалёўка. Верш так і называецца— «Зарисовка». У ёй — гукі беларускага лета, яго фарбы і «партрэт» адной са шматлікіх беларускіх рачулак, якая

Ворчит, ворочается гневно
На жестком ложе из камней.
Впервые миновав плотину,
Она в лугах, потом в бору
До пота натрудила спину,
Аж пар над нею поутру.

Проста сказана, задушэўна і мудра. Малюнкі шматфарбныя, рэльефныя. І гэта не звычайнае адлюстраванне ўбачанага. Усё асветлена адносінамі да адлюстраванага самога паэта — унутраным святлом ягонай душы. І агеньчыкі дзіцячых гальштукаў, і натруджаная спіна ракі — тыя завяршаючыя мазкі, трапна пакладзеныя на месца, якімі вызначаюцца па-майстэрску напісаныя эцюды. Гэта тое «чуть-чуть», з якога, паводле вядомага афарызму, пачынаецца мастацтва...

У кнізе ж — не толькі эцюды-замалёўкі. Тут і карціны — змястоўныя, цікавыя, хвалюючыя вершы (такія, як «Поэзия», «Дубовый лист», «Родные слова», «Труд», «В полесской глуши», «Сердце», «Черный хлеб», «Военный оркестр на Бродвее», «Как мы разговаривали со скворцом», «Деревце на небоскребе» і шмат якія іншыя), і манументальныя палотны—дзве паэмы: «Всегда с Лениным» і «Голос сердца».

Усё ўзятае ў цэлым — задушэўная размова з сучаснікам пра самае надзённае, самае хвалюючае ў сённяшнім жыцці чалавека. Размова, значэнне якой выходзіць далёка за межы нашай рэспублікі і нашай краіны.

Свет, які адлюстроўвае Пятрусь Броўка, свет, як ён яго бачыць,— надзвычай прыгожы, у ім шмат фарбаў і гукаў, ён складаны і супярэчлівы; паэт усёй сілай душы падкрэслівае кантраст прыгожага, перадавога, красы жыцця і таго, што пярэчыць жыццю, — чорнага, непатрэбнага, ад чаго чалавецтва павінна пазбавіцца на гістарычным шляху да ззяючых вышынь самага перадавога грамадства на Зямлі.

Дзявочыя рукі цягнуцца да язміну... Як цымбалы, пяюць родныя словы — Блонь, Струнь, Звонь... Пад сонцам блішчыць першая баразна, быццам першая старонка веснавой кнігі... Шахты закладаюцца скрозь пад Старобінам на старадаўняй, а сёння абноўленай палескай зямлі... Пахне чабор... Раўчук прабівае сабе дарогу, каб ператварыцца ў раку і круціць турбіны, і прыпадаць грудзьмі да скалаў, і гайдаць у буру караблі... Гарачы камочак сэрца б'ецца ў грудзях... Бура жыве ў глыбінях душы...

Чаму бура? Чаму тонкі лірык пераўвасабляецца ў публіцыста, трыбуна? Народжаная ў глыбінях душы паэта-грамадзяніна бура выбухае песняй гневу і пратэсту супраць падпальшчыкаў вайны, супраць душ чэрствых і хцівых... Супраць таго, каб пушыстыя воблакі неслі людзям страшную пагібель... Супраць таго, каб ваенныя трубы гралі ваенныя маршы...

Паэт за тое, каб караблі на Гудзоне адмовіліся служыць няпраўдзе... Каб людзі замест вайны выпрабоўвалі сілы ў палётах на Марс і Венеру.

Будем же к миру
Взывать неустанно:
— Люди, дружите
Живые с живыми!

Гэты заклік з верша «Не забывайте о Хиросиме» нібы лейтматыў усяе кнігі, прасякнутай жаданнем аднаго, каб людзі мірна жылі на Зямлі, каб заўсёды іх сэрцы былі адкрыты для дружбы насцеж.

І калі паэт гаворыць:

И я встаю навстречу песне,
Навстречу солнцу я встаю,—

мы разумеем гэты матыў як усведамленне дзейснай ролі паэзіі ў жыцці чалавечым, усведамленне адказнасці паэта за кожнае сваё слова. Уставаць насустрач сонцу, каб з кожным новым днём, які прыходзіць, ставіць перад сабой усё новыя і новыя, усё больш складаныя задачы.

Гэтыя складаныя задачы паэзія здольна выканаць у наш час, калі так імкліва ідуць дні, толькі пры ўмове, што яна будзе праўдзівай, «словно детская слеза, прозрачной и лучистой».

Не знать ей отдыха нигде
Ни днём, ни ночью темной,
Жить постоянно средь людей,
Работать неуемно.

Паэзія Петруся Броўкі іменна такая і ёсць. Заўсёды актыўны творча, паэт у апошнія гады працуе асабліва напружана і многа.

У кнігу ўвайшлі творы з нядаўніх зборнікаў «Пахне чабор» і «Далёка ад дому», а таксама новыя вершы і паэмы. На кнігу гэтую глядзіш па-новаму не толькі таму, што знаёмыя па публікацыях у беларускім друку творы гучаць на рускай мове, але і таму, што яна нібы падагульняе чарговы этап творчага шляху паэта, таму што яна цэльная і сведчыць пра тыя новыя вышыні, якіх дасягнуў у паэзіі аўтар класічнай у нашай літаратуры паэмы «Праз горы і стэп».

Шырокі кругагляд. Актыўнае сцвярджэнне жыцця. Пільнае вока, якое бачыць свет ва ўсіх яго вымярэннях і супярэчнасцях, ва ўсіх яго праявах, ва ўсіх фарбах і гуках. Такім уяўляецца нам сёння лірычны герой паэта. Што ж датычыць культуры верша, якой валодае паэт, дык каб скласці пра яе ўяўленне, дастаткова прыгадаць з кнігі «А дни идут...» хоць бы такія вершы апошніх год, як «Аист», «Деревце на небоскребе», «Зеленый клен шумел над нами...», «Да, жил я в юности сурово...» і многія іншыя.

Вобразы яго твораў ёмістыя, лаканічныя. Калі так можна сказаць, тэкст Броўкі заўсёды ўзбагачаны змястоўным падтэкстам.

Вось хоць бы, скажам, такі верш, як «Дубовый лист». Ён прадыктаваны магутным адчуваннем еднасці чалавека з Радзімай. Лісток на галінцы дуба — нібы чалавек у адным з краёў Айчыны.

Когда зимою
Вьюга стонет
И злобно щерится мороз,
Он прикрывает, как ладонью,
Ту ветку,
На которой рос.

Хораша гэта, проста і вельмі ж цёпла сказана «как ладонью»... І справа не ў самой ёмкай дэталі. Справа ў тым, што так цёпла, светла, непасрэдна глядзіць паэт на ўсё, што яму люба ў жыцці.

Колькі любасці гэтай і шчырасці, колькі цеплыні і звонкага святла, напрыклад, у вершы «Ты — моя пчелка...»

Ты, моя пчелка,
Не бойся беды и невзгоды.

Если внезапно
Волну повстречаешь лихую —

Лягу листком
И тебя в океане спасу я.

В жаркой степи
Без воды потеряешь ты силы —
Стану росинкой,
Чтоб жажду твою утолила...

А вось верш «Около мороженщика». У Нью-Джэрсі побач з Нью-Йоркам машына марожаншчыка прываблівае, нібы магніт, усіх Майклаў, Джэкаў і Джэсі... «Ведь наши ребята такие же, как они». І з якой шчырасцю, з якім клопатам за ўсіх дзяцей — будучыню нашае Зямлі — гаворыць паэт пра тое, што з дзіцяці «что хочешь можно лепить», і ён, паэт, хоча, каб з маленства іх прывучалі імкнуцца да зор, да станкоў, да паэм.

Пускай, окруженные лаской,
Не знающие беды,
Ребята разводят краски,
Выращивают сады.

Давайте, друзья, поможем им
Выстроить мир такой,
Где всех угощают мороженым
И никого — войной.

Сэрца чытача не можа не адгукнуцца на тую шчырую мелодыю, што прасякае творчасць паэта. Мелодыя гэтая ў кнізе «А дни идут...» акрэслілася надзвычай выразна. Высокі грамадзянскі пафас і ў лірыцы гэтай кнігі, і ў паэмах пра Ільіча, і пра маці.

У паэме «Всегда с Лениным»— сённяшні наш дзень з яго роздумамі і трывогамі, з яго здзяйсненнямі і марамі. Услед за Маякоўскім аўтар паэмы можа паўтарыць—«Я себя под Лениным чищу...»

Шагая нелегкой дорогой,
Свой груз не снимая с плеча,
Стараемся быть хоть немного
Похожими на Ильича.

Нельга не адзначыць, што, нягледзячы на дасведчанасць і майстэрства перакладчыка, творы Броўкі ў перакладзе трацяць у параўнанні з арыгіналам. Многія адценні пачуцця, перададзеныя ў арыгінале, пры перакладзе згубіліся.

І ўсё ж вельмі радасна, што чарговая сустрэча Петруся Броўкі з рускім чытачом такая ўдалая, такая шчырая. Радасна, што паўпрэд беларускай савецкай паэзіі ў гэтай сустрэчы выступае ва ўсеўзбраенні свайго майстэрства і маладога, нестарэючага таленту.

**Ул. БОЙКА.**

Пятрусь Броўка. «А дни идут...» Вершы і паэмы. Аўтарызаваны пераклад з беларускай мовы Якава Хелемскага «Советский писатель». Масква, 1961.

## З ДАПАМОГАЙ АРТЫСТАЎ

**Творчая дружба звязвае калектыў Магілёўскага абласнога драматычнага тэатра з хлеборобамі калгаса «Расія» Магілёўскага раёна. Артысты выязджаюць у калгас, цікавяцца жыццём і працай хлебаробаў, дапамагаюць ім у наладжванні культурнага адпачынку. А калгаснікі калектыўна наведваюць спектаклі тэатра, знаёмяцца з творчым жыццём яго калектыву. У дні канікул дзеці калгаснікаў пабывалі на спектаклі «Вялікі чараўнік» па п'есе В. Губарава.**

**Калектыў тэатра ўзяў шэфства над калгасным драматычным гуртком, якім кіруе настаўнік Сідаравіцкай сярэдняй школы В. Жукаў. Драмгурток ажыццявіў пастаноўку п'есы М. Алтухова і М. Гарулёва «Выбух». Калгасных аматараў сцэны кансультавалі рэжысёр тэатра А. Раеўскі, артысты Ю. Гальперына, А. Яфрэменка. Дэкарацыі, парыкі, касцюмы, грым, асвятляльную апаратуру для пастаноўкі спектакляў даў тэатр. Усё гэта было падаравана калгаснаму драмгуртку на пастаяннае карыстанне. Спектакль быў добра падрыхтаваны і карыстаўся вялікім поспехам. Зараз драмгурткоўцы пры дапамозе артыстаў тэатра рыхтуюць новы спектакль.**

**Галоўны мастак тэатра А. Белазёраў прыгожа аформіў калгасны клуб.**

## ШЧЫРЫЯ СЯБРЫ КНІГІ

# У ЛЮДЗЯХ — НАША СІЛА

З кожным днём паляпшаецца жыццё савецкіх людзей. Акрыленыя рашэннямі XXII з'езда партыі, працаўнікі вёскі смела штурмуюць рубяжы сямігодкі. І хто б ты ні быў—трактарыст ці настаўнік, даярка ці брыгадзір — у кожнага з нас ёсць верны сябра і спадарожнік жыцця — кніга.

Што трэба зрабіць, каб больш разнастайнай стала ў нас прапаганда кнігі, як прыцягнуць больш чытачоў?

Гэтыя пытанні творча вырашаюць работнікі бібліятэк Смалявіцкага раёна.

У раёне 127 бібліятэк розных ведамстваў і арганізацый. На іх паліцах налічваецца каля 300 тысяч экземпляраў кніг. Бібліятэкі абслужылі 35 тысяч чытачоў, арганізавалі і правялі шмат розных і цікавых культурна-масавых мерапрыемстваў.

Міністэрства культуры БССР, падвёўшы вынікі агляду бібліятэк рэспублікі, уручыла Чырвоны сцяг Смалявіцкаму раёну за добрую арганізацыю абслугоўвання насельніцтва кнігай, а раённая бібліятэка імя М. Багдановіча і Жодзінская сельская бібліятэка прызнаны лепшымі.

У чым жа сакрэт поспехаў бібліятэкараў Смалявіцкага раёна? Традыцыяй стала ў работнікаў бібліятэк праводзіць справаздачы перад насельніцтвам. Да такіх сходаў звычайна рыхтуюцца не толькі загадчыкі бібліятэк, але і члены бібліятэчных саветаў, актывісты-чытачы.

Надзейным памочнікам прапагандыстаў кнігі з'яўляюцца саветы бібліятэк. Гэта — найбольш аўтарытэтныя людзі сельсавета, кнігалюбы, передавікі вытворчасці. Так, актыў чытачоў пры бібліятэцы імя М. Багдановіча налічвае 100 чалавек, а бібліятэчны савет складаецца з 13 чалавек.

Узначальвае савет настаўніца Марыя Сямёнаўна Савельева. Пры савеце створана пяць секцый: масавай работы, камплектавання фонду, прыцягнення новых чытачоў і работы перасовак, метадычнай і бібліяграфічнай работы і секцыя па гаспадарчых пытаннях.

Члены савета падтрымліваюць цесную сувязь з калгасамі і саўгасамі раёна. Аграном Ірына Сямёнаўна Качкалда правяла ў саўгасе імя Леніна канферэнцыі чытачоў на тэмы: «Перадавыя метады вырошчвання цукровых буракоў», «Як атрымаць высокі ўраджай грэчкі ў БССР». Тав. Качкалда памагае камплектаваць кніжны фонд бібліятэкі новай сельскагаспадарчай літаратурай, арганізоўвае тэматычныя паліцы ў дапамогу работнікам сельскай гаспадаркі. Яна часта выступае па мясцовым радыё, праводзіць гутаркі ў бібліятэцы, брыгадах, на фермах.

Прапагандаваць грамадска-палітычную літаратуру памагаюць работнікі райкома партыі. У кінатэатры «Радзіма» на торфапрадпрыемстве імя Арджанікідзе былі праведзены вечары на тэмы: «Рабочае гордае юнацтва, працай сваёю Радзіму ўслаўляй» і «Смалявіцкі раён у трэцім годзе сямігодкі». Удзел прынялі перадавікі вытворчасці і сельскай гаспадаркі. Актывісты штомесячна выпускаюць у бібліятэцы бюлетэнь «Голас чытача».

Загадчыца раённай бібліятэкі — Марыя Фёдараўна Александрова— здольны арганізатар. Разам з актывам яна правяла падворны абход у раённым цэнтры. У выніку — у бібліятэку прыйшлі новыя чытачы. Багаты вопыт прапаганды кнігі мае загадчыца Пятровіцкай сельскай бібліятэкі Марыя Аляксееўна Кардымон.

80 чалавек налічвае актыў бібліятэкі. Да гэтага трэба яшчэ дадаць 30 кніганош і дзевяць перасоўнікаў. Актыўным распаўсюджвальнікам кнігі з'яўляецца рабочы саўгаса «Пятровічы» тав. Кошаль. Па тэме «Самы чалавечны чалавек» ён правёў шэсць калектыўных чытак кніг і гутарак аб Леніне ў чацвёртай брыгадзе саўгаса. Умела прапагандуе прыродазнаўча-навуковую і медыцынскую літаратуру актывістка тав. Жданко. Яна выступіла з аглядамі літаратуры: «Як выхаваць дзіця здаровым», «У чым шкода рэлігійных забабонаў».

Так бібліятэкі раёна арганізоўваюць сваю работу ў цеснай дружбе з актывам і грамадскасцю. Толькі дзякуючы іх актыўнай дапамозе работнікі бібліятэк раёна першымі ў вобласці давялі кнігу да кожнай сям'і рабочага, калгасніка і служачага.

Цяпер раённая і сем сельскіх бібліятэк спаборнічаюць за атрыманне ганаровага звання «Бібліятэка выдатнай работы».

Поспехаў вам, нястомныя прапагандысты кнігі, у вашай высакароднай справе.

**М. ПЛЕСКАЦЭВІЧ.**

Вечарам 12 студзеня ў Беларускім дзяржаўным тэатры оперы і балета для ўдзельнікаў нарады работнікаў сельскай гаспадаркі Беларускай ССР быў дадзены вялікі канцэрт. У ім прынялі ўдзел Акадэмічная харавая капэла БССР, ансамбль песні і танца БССР, народны аркестр БССР, ансамбль песні і танца БВА, ансамбль танца БССР, студэнты Беларускага інстытута фізкультуры, салісты Тэатра оперы і балета, Белдзяржфілармоніі, народныя артысткі БССР Т. Ніжнікава, Л. Ражанава, заслужаныя артысты БССР В. Глушакоў, І. Савельева, В. Давыдаў, М. Шышкін, Н. Давыдзенка, В. Міронаў і іншыя.

На канцэрце прысутнічаў Першы сакратар ЦК КПСС, Старшыня Савета Міністраў СССР таварыш М. С. Хрушчоў.

У зале былі таварышы К. Т. Мазураў, Ц. Я. Кісялёў, В. І. Казлоў, Ф. А. Сурганаў, В. Ф. Шаура, Д. Ф. Філімонаў, І. Ф. Клімаў, А. І. Золаў, У. Г. Каменскі, С. О. Прытыцкі, І. М. Макараў, В. А. Пянькоўскі, Л. Г. Максімаў, С. А. Пілатовіч.

На канцэрце прысутнічалі таксама дэлегацыі Украінскай ССР на чале з першым сакратаром ЦК КП Украіны М. В. Падгорным, Літоўскай ССР на чале з першым сакратаром ЦК КП Літвы А. Ю. Снечкусам, Латвіі на чале з першым сакратаром ЦК КП Латвіі А. Я. Пельшэ і Эстоніі на чале з першым сакратаром ЦК КП Эстоніі І. Г. Кэбіным, якія прымалі ўдзел у нарадзе работнікаў сельскай гаспадаркі Беларусі.

**На здымку:** фінальная сцэна канцэрта.

# СУПРАЦЬ КАГО ЗМАГАЕЦЦА АЎТАР?

Узнікненне класічнай тэорыі сучаснага сцэнічнага мастацтва непасрэдна звязана з імем выдатнага рэжысёра-педагога К. С. Станіслаўскага.

Сістэма Станіслаўскага зрабіла найвялікшы ўплыў і на развіццё опернага мастацтва, яна садзейнічала замацаванню рэалізму на опернай сцэне. Станіслаўскі не толькі перанёс на сцэну музычнага тэатра свой шматгадовы вопыт, набыты ў драме, але і адкрыў рад аб'ектыўных законаў творчасці опернага артыста, якія вынікаюць з арганічнай сувязі спеваў, музыкі і слова.

Цяпер наўрад ці знойдуцца адкрытыя праціўнікі творчага матэрыялістычнага метаду вялікага рэфарматара савецкага драматычнага і музычнага тэатра. Але сёй-той проста няправільна разумее прынцыпы работы Станіслаўскага ў оперы і не надае ім асаблівага значэння. Таму кожнае навуковае абгрунтаванне выкарыстання сістэмы выдатнага рэжысёра ў практычнай дзейнасці савецкіх оперных тэатраў, кансерваторый з'яўляецца карысной і неабходнай справай.

Нядаўна выдадзена кніга старэйшага выкладчыка Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі Д. Румянцава «Опернае мастацтва і сістэма К. С. Станіслаўскага. Элементы сістэмы К. С. Станіслаўскага ў працы над рамансам». У гэтай кнізе два асноўныя раздзелы. У першай частцы першага раздзела «Мастацтва перажывання ў оперы» аўтар адзначае, што сістэма Станіслаўскага яшчэ недастаткова поўна выкарыстоўваецца ў оперным тэатры. Ён прыводзіць пярэчанні «невядомых» дзеячоў оперы супраць укаранення творчага метаду Станіслаўскага ў оперным мастацтве, якія сцвярджаюць — быццам бы: «1) пры ўсім яе рэалізме опера— умоўны від мастацтва, таму яе выканаўцы не могуць у ёй жыць так, як у сапраўдным жыцці; 2) сама музыка валодае такой сілай уздзеяння, што дастаткова музычна правільна і дакладна данесці яе да слухача, каб выклікаць у яго адпаведную рэакцыю і 3) оперныя і наогул музычныя формы і спосаб выканання оперы настолькі складаныя для выканаўцы, што паглынаюць усю яго ўвагу, а гэта, у сваю чаргу, не дае яму магчымасці жыць па-сапраўднаму жыццём опернага вобраза».

Сапраўды, такія меркаванні яшчэ бытуюць у наш час. І шкада, што аўтар кнігі чамусьці не палічыў патрэбным канкрэтна назваць прозвішчы тых, хто выказваў такія думкі. Напрыклад, у артыкуле В. Гарадзінскага «Опера і балет», апублікаваным у зборніку Усерасійскага тэатральнага таварыства «Советский театр», можна таксама прачытаць, што «музыка ў самой сабе ніякай ідэалогіі не заключае» і «ўяўляе чыста гукавую арганізацыю».

Палемізуючы з падобнымі выказваннямі, Д. Румянцаў справядліва сцвярджае ў сваёй кнізе, што нельга штучна вылучаць толькі адзін з кампанентаў сінтэтычнага опернага мастацтва. «Оперны вобраз, — гаворыць аўтар, — складаецца з усіх гэтых кампанентаў, і толькі наяўнасць іх усіх стварае паўнацэнны рэальны оперны вобраз». У пацвярджэнне сваіх думак Д. Румянцаў спасылаецца на выказванні рускіх кампазітараў-класікаў і на практыку стварэння оперных вобразаў выдатным спеваком Ф. Шаляпіным. Аднак у далейшым, параўноўваючы асаблівасці опернай драматургіі «з драмай і камедыяй у вершах» («Юлій Цэзар» Шэкспіра, «Жыццё ёсць сон» Кальдэрона, «Дзяўчына са збаном» Лопе дэ Вега і г. д.), аўтар значна адхіляецца ад пастаўленай перад сабой задачы. Пры параўнанні форм драматургіі Шэкспіра, Кальдэрона і іншых заходніх пісьменнікаў з музычнымі і опернымі формамі аўтар кнігі робіць неспадзяваны і незразумелы вывад, што «формы сцэнічныя (?!) і формы оперныя ў вельмі многіх выпадках супадаюць і што няма ніякіх падстаў лічыць оперныя формы зусім своеасаблівымі і адасобленымі».

Паняцце «сцэнічныя формы» непасрэдна звязана з выканаўчым майстэрствам, з працэсам увасаблення опернага або драматычнага твора на сцэне. Формы ж оперныя ўключаюць у сябе арыі, разнастайныя вакальныя ансамблі, хоры і г. д., у тым ліку спецыфічныя кампазіцыйныя пабудовы: рэпрызы, ронда і іншыя. Таму такое параўнанне — безумоўна памылковае, а недакладна сфармуляваны вывад проста выклікае здзіўленне.

У другой частцы першага раздзела кнігі—«Драматургічны аналіз К. С. Станіслаўскага ў дасатсаванні да опернай драматургіі» Д. Румянцаў ставіць пад сумненне выказванні кампазітараў аб тым, што «на любое пытанне, якое датычыць драматургіі, вобразаў і нават афармлення оперы», адказ дае музыка. Ён параўноўвае гэтыя выказванні з абагуленымі палажэннямі, дадзенымі Арыстоцелем у яго «Паэтыцы», а таксама англійскім шэкспіролагам Моультанам і іншымі тэарэтыкамі класічнай драматургіі. Мне здаецца, што тут няма ніякай сувязі з опернай драматургіяй і зусім дарэмна аўтар кнігі абвінавачвае сучасных тэатразнаўцаў і музыказнаўцаў у тым, быццам бы яны «лічаць, што вучэнне Станіслаўскага датычыць галоўным чынам інтэрпрэтацыі і таму больш адносіцца да выканаўцаў, чым да драматургаў, кампазітараў і даследчыкаў». Калі ўважліва вывучыць сапраўды навуковыя даследаванні Б. Ярустоўскага («Драматургія рускай опернай класікі», «Оперная драматургія П. І. Чайкоўскага»), М. Друскіна («Пытанні музычнай драматургіі оперы»), то можна пераканацца, што вельмі многія свае вывады яны абгрунтоўваюць іменна вучэннем Станіслаўскага. Гэта гаворыць пра тое, што выканаўчы аналіз оперных твораў у Станіслаўскага не разыходзіцца з музыказнаўчым.

Сучасныя савецкія музыказнаўцы, раскрываючы музычны змест оперы, улічваюць і тэкставы яе матэрыял, сюжэтнае развіццё. Гаварыць толькі пра тэкст оперы, значыць — адмаўляць сэнсавае значэнне музыкі, што супярэчыць законам музычнай эстэтыкі. Музычны і тэкставы змест у оперным творы, як у рамансе і песні, знаходзіцца ў цесным адзінстве, бо слова ў іх увасоблена ў адпаведнай музычнай (вакальнай) форме, якая раскрывае сэнс гэтага слова, яго эмацыянальную насычанасць. Дзейсны аналіз Станіслаўскага накіраваны іменна на найбольш поўнае раскрыццё музычнага зместу оперы. Пра гэта дастаткова пераканальна гаварыў сам творца сістэмы. Ён сцвярджаў, што «ў музыцы сцэнічнай, опернай абавязкова закладзена дзеянне, якое мы павінны ўвасобіць на сцэне. Дзеянне павінна вызначацца не толькі тэкстам, але ў значна большай ступені і партытурай».

Вялікае значэнне сістэмы Станіслаўскага ў тым і заключаецца, што ён на практыцы пастановак оперных твораў паказаў неабходнасць фізічных і слоўных дзеянняў у музычным творы. Станіслаўскі з матэрыялістычнай пазіцыі падышоў да раскрыцця сапраўднай прыроды акцёрскага майстэрства. «У кожным фізічным дзеянні, — гаварыў ён, — калі яно не проста механічна ажыццёўлена знутры, схавана ўнутранае дзеянне, перажыванне».

Калі Д. Румянцаў, пасля дарэмнай «перастрэлкі» з уяўнымі «праціўнікамі» — кампазітарамі, музыказнаўцамі, урэшце падыходзіць да такога ж вываду аб неабходнасці актыўных паводзін акцёра на сцэне, ён знаходзіць правільную лінію развіцця сваёй асноўнай тэмы. Толькі хочацца яшчэ раз сказаць, што оперны твор усё ж патрэбна разглядаць не па частках, а як адно цэлае, дзе музыка, слова, канкрэтны сюжэт знаходзяцца ў арганічным адзінстве.

На мой погляд, даволі спрэчным з'яўляецца выказванне Д. Румянцава адносна таго, што гледачы опер Глюка, Моцарта, Даніцэці, Расіні, Вердзі, Гуно, Маснэ «ўспрымалі оперу проста як вакальна-музычную ілюстрацыю да добра вядомага ім (гледачам) твора», маўляў, наведвальнікаў спектакляў не цікавіла «скразное дзеянне». Наш сённяшні глядач не толькі з хваляваннем успрымае «музычную ілюстрацыю» опер «Дон Жуан», «Вяселле Фігаро» Моцарта, «Севільскага цырульніка» Расіні, «Рыгалета», «Травіята» Вердзі, не кажучы ўжо аб творах рускай класікі, але кожны раз з неаслабнай увагай сочыць за развіццём дзеяння на сцэне і знаходзіць усё новыя прыгажосці, усё глыбей пранікае ў сэнс твораў. Гэтым і толькі гэтым тлумачыцца тое, што оперы Моцарта, Глінкі і іншых вялікіх кампазітараў-класікаў жывуць стагоддзі.

Цікавы ў кнізе аналіз работы Рымскага-Корсакава над тэкстам «Снягурачкі» А. Астроўскага. Супастаўляючы ідэйна-сэнсавыя і дзейсныя асновы літаратурнай першакрыніцы і самой оперы, Д. Румянцаў даказвае, што аўтар опернай музыкі іншы раз мяняе не толькі ідэйны змест і скразное дзеянне твора, але нават вобразы асноўных дзеючых асоб яго. Аналіз вобразаў опер «Русалка» Даргамыжскага, «Яўгеній Анегін» Чайкоўскага, «Царская нявеста» Рымскага-Корсакава таксама канкрэтны, абгрунтаваны, мае пазнавальнае значэнне.

Трэцяя частка першага раздзела — «Элементы сістэмы К. С. Станіслаўскага ў стварэнні опернага вобраза» прысвечана практычным пошукам скразнога дзеяння і ўнутранага зерня вобраза. Тут прыводзяцца даволі пераканальныя прыклады пошукаў гэтых элементаў стварэння сцэнічнага вобраза, падрабязна распрацоўваюцца сцэнічныя задачы і дзеянні. Гэтая частка больш змястоўная ў параўнанні з папярэднімі. Але і тут Д. Румянцаў не ўнікнуў адной памылкі. Калі сюжэт оперы мае літаратурную першакрыніцу, то сякое-такое, хоць і недасканалае, разуменне сюжэта можа папярэднічаць знаёмству з драматургічнай сітуацыяй, увасобленай кампазітарам у оперы. Але кампазітар далёка не заўсёды адлюстроўвае ў сваім творы дакладна ўсе канфлікты, а іншы раз нават перапрацоўвае поўнасцю дзейсную лінію вобразаў літаратурнай першакрыніцы. Да таго ж у оперным мастацтве ёсць нямала твораў, якія не маюць ніякіх літаратурных першакрыніц. Вось чаму выклікаюць здзіўленне словы аўтара аб тым, што «накід дзейснай лініі, задач кавалкаў і скразнога дзеяння павінен папярэднічаць развучванню партыі», гэта значыць, знаёмству з музыкай. Як жа можна «накідаць дзейсную лінію» ў адрыве ад музычнага зместу, які ў оперы з'яўляецца вызначальным? Гэта ўказанне аўтара супярэчыць сістэме Станіслаўскага, які патрабаваў убачыць у музыцы сцэнічную карціну і перакласці яе на мову сцэнічных дзеянняў.

Другі раздзел кнігі «Элементы сістэмы К. С. Станіслаўскага ў працы над рамансам» — самастойная распрацоўка творчага метаду вялікага знаўцы опернага мастацтва ў дастасаванні да вобразаў у рамансах. Д. Румянцаў паслядоўна і пераканальна даводзіць неабходнасць сістэмы ў камерным спяванні. Значную ўвагу ён удзяляе развіццю ў спевака творчага ўяўлення, здольнасці лагічна мысліць і глыбока пранікаць у змест твора. Аўтар карыстаецца прыкладамі з розных рамансаў, гаворыць пра асаблівасці музыкі таго ці іншага кампазітара. Гэты раздзел кнігі пры некаторым яго дапаўненні можа быць карысным дапаможнікам як для пачынаючых, так і для больш вопытных камерных спевакоў.

У цэлым жа кніга Д. Румянцава мае вельмі вялікі і істотны недахоп: яна адарвана ад жывой практыкі Беларускага тэатра оперы і балета і Беларускай кансерваторыі. Аўтар абыходзіць канкрэтныя факты і прыклады з нашага музычнага жыцця, і таму невядома, супраць каго ён змагаецца. Кніга напісана вельмі груваскай мовай, маладаступнай для шырокіх аматараў музыкі. Вось чаму міжволі ўзнікае пытанне: ці была мэтазгоднасць выдаваць яе ў такім выглядзе?

**С. КАПАРА,**
**дацэнт Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі.**

Д. М. Румянцаў. «Опернае мастацтва і сістэма К. С. Станіслаўскага. Элементы сістэмы К. С. Станіслаўскага ў працы над рамансам». Выдавецтва Міністэрства вышэйшай, сярэдняй спецыяльнай і прафесіянальнай адукацыі БССР. Мінск. 1961.

## ЧЫТАЧЫ ПРАПАНУЮЦЬ

### Ушанаваць памяць земляка

Калісьці недалёка ад вёскі Слабада Мядзельскага раёна знаходзіўся фальварак Кавалі. Тут у 1869 г. нарадзіўся Адам Гурыновіч, адзін з пачынальнікаў беларускай літаратуры, пясняр-барацьбіт, які дбаў аб шчаслівым жыцці нашага народа, будзіў і зваў яго да барацьбы за волю, за свабоду:

Бяры, браце, дудку, наладзь і жалейку,
Няхай песнь смутная ідзець у калейку
І будзіць у сэрцы мысль аб лепшай долі,
Якой мы не зналі дагэтуль ніколі.

Заўчасная смерць абарвала жыццё Адама Гурыновіча. Але тое, аб чым марыў паэт, — збылося. Шчасліва жывуць яго землякі, як і ўвесь савецкі народ. Вёска Слабада, куды маленькі Адам прыходзіў у краму ці царкву, стала цэнтрам калгаса «17 верасня». Тут ёсць школа-дзесяцігодка, калгасны Дом культуры, сельская бібліятэка.

І вельмі крыўдна, што ні школа, ні Дом культуры, ні бібліятэка не носяць імя нашага земляка, што памяць аб ім не захавана нават у мемарыяльнай дошцы. Гэта можна і трэба зрабіць.

**С. ГАРДЫНЕЦ,**
**калгаснік.**

### Кніга, патрэбная кожнаму

Кніга «Народныя ўсмешкі», выдадзеная ў серыі бібліятэчкі «Вожыка», прыхільна сустрэта чытачом. Аднак гэтая кніга вельмі маленькая, у ёй усяго трыццаць сем старонак. Трэба зрабіць больш пашыранае выданне «Народных усмешак». Матэрыялу для вялікай кнігі шмат у перыядычным друку, у літаратурных творах. А колькі— у народзе!

Такая кніга патрэбна кожнаму савецкаму чалавеку, у яе складанні могуць прыняць удзел сотні людзей.

**У. СОДАЛЬ,**
**студэнт-завочнік IV курса Мінскага педінстытута імя М. Горкага.**

### Прыклад, варты пераймання

У апошнія гады пачалі выходзіць двухтомнікі твораў многіх сучасных пісьменнікаў. Гэта добра, але для чытача не заўсёды зручна. У дарогу, напрыклад, лепш браць з сабою адзін сцісла надрукаваны том, чым два. Ды і на вокладкі двух тамоў ідзе больш кардону.

У Кіеве да 100-годдзя з дня смерці Тараса Шаўчэнкі выдадзены «Кабзар» з прыгожымі ілюстрацыямі. Гэта невялікі па фармату том, але ў ім змешчаны многія творы паэта. А чаму з гэтага не ўзяць прыкладу і нам? Чаму не выдаць такія ж зборнікі вершаў Купалы, Коласа?

**Д. ПУЧЫНСКІ.**

Браслаўскі раён.

## У Аршанскім раёне

△ Актывісты Брухаўскага сельскага клуба пачалі падрыхтоўку да выбараў у Вярхоўны Савет СССР. Савет клуба разам з удзельнікамі мастацкай самадзейнасці намеціў вялікі план масавай работы і прыступіў да яго ажыццяўлення. У клубе адбылася тэарэтычная канферэнцыя «Маральны кодэкс будаўніка камунізма».

Агітбрыгада мастацкай самадзейнасці склала праграму цікавага канцэрта, які будзе паказаны працаўнікам вёскі. Адбыліся першыя канцэрты агітбрыгады ў Холмаўскім сельскім клубе і сельгасарцелі «Шлях Саветаў».

У клубе арганізаваны куток прапагандыста. У ім — розная палітычная літаратура.

△ Высокаўская сельская бібліятэка, якой загадвае В. Барысава, правяла вусны часопіс «У нагу з жыццём». Адна з старонак часопіса называлася «Песня і праца — разам жывуць». Барысава расказала прысутным аб тым, як памагае песня жыць і працаваць савецкаму чалавеку. Затым хор мастацкай самадзейнасці выканаў рад папулярных песень.

△ Народны тэатр клуба чыгуначнікаў імя Кірава падрыхтаваў новы спектакль па п'есе «Іркуцкая гісторыя» А. Арбузава. У бліжэйшыя дні пастаноўка будзе паказана наведвальнікам тэатра.

△ На заводзе швейных машын адбыўся агляд цэхавых самадзейных калектываў, у якім прыняло ўдзел каля ста спевакоў, танцораў, чытальнікаў, акрабатаў.

